# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



№ 17 (116) Vilnia, 16 Śniežnia 1937 h. Hod IX.

# PAŠTOVAJA SKRYNKA

Minskamu: ščyra dziakujem za prysłany artykuł. Vykarystajem jaho ŭ nastupnym numary. Prośbu spaŭniajem.

P. Małatku: Karespandencyju atrymali, achvotna nadrukujem, ale ŭ nastupnym numary. Prosim pisać čaściej.

R. B.: Za prysłanaje dziakujem, jak bačycie drukujem. „Maładyja paryvy“ pieradamo ў „Летапіс“.

Лявону: Вершы атрымалі, слабаватыя і ў некаторых мясцох за вострыя. У меру магчымасьці будзем старацца друкаваць. Прывітаньне!

М. Хакале: „Шлях Моладзі“ высылаем Вам акуратна, дамагайцеся на пошце У гэтай справе пацамо рэклямацыю ў Дырэкцыю Поштаў.

Я. Чорнаму: Адзін верш надрукуем, рэшта слабыя. Больш працуйце над сабой.

Мік. З.: Вершы атрымалі, патрабуюць паправак, кульгае ў іх рым і мова. У меру магчымасьці будзем папраўляць і друкаваць. Прывітаньне!

Ф. Вайцілёнку: Абразок „Значэньне працы“ і апошні верш слабаватыя. Рэцэнзіі канцэрту, з прычыны нястачы месца, не маглі надрукаваць і даём толькі зацемку. Друкуем так-жа адзін з раней прысланых Вашых вершаў. Прывітаньне!

Грам. С—вуў Рызе: Грамафонныя пліткі з беларускімі народнымі песьнямі ў выкананьні М. Забэйды-Суміцкага купіце ў мясцовым рыскім магазыне, а калі яшчэ ня маюць, то запатрабуйце праз іх. Фірма „Odeon“ разсылае свае пліткі па ўсім сьвеце. Нумары бел. плітак гэткія: 271378, 271379, 271380, 271381, 271382 — Праваслаўную і каталіцкую літаратуру ў беларускай мове можаце дастаць у кнігарні „Пагоні“, Вільня, Завальная 1. Для праваслаўнага гуртка бел. моладзі, які арганізуецца, прапануем грам. С. Паўловіча: Вільня, Папоўская 9.

Д. А.: Карэспандэнцыю пастараемся надрукаваць. Артыкул аб ксяндзох і эванэліі ня можам надрукаваць, бо пойдзе ён пад канфіскату.

М. Кліну: Вершы слабыя. Пісаць можаце, трэба толькі лепш пазнаць беларускую граматыку і правапіс, ды больш чытаць беларускіх кніжак.

М. К.: „Шл. Мл.“ будзем высылаць, весткі ня друкуем, бо ўважаем яе мала важнай.

А. Корзе: Просьбу перадалі ў Бел. Кнігарню „Пагоню“ і грошы таксама. Кніжкі ўжо высланыя.

Моладзі зв. Кавалі: Курсы пазашкольнае асьветы, нажаль, пакульшто не прадбачацца.




**„Шлях Моладзі“**
**ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ.**
**Выходзіць: 5-га і 20-га кожнага месяца.**

Падпіска на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 75 гр., на паўгода—1.50 зл., на цэлы год — 2 зл. і 50 гр.
Заграніцу—ўдвая даражэй.

ЦЭНЫ АБВЕСТАК: 1/1 бачына 50 зл., 1/2—25 зл., 1/4—15 зл., 1/8—8 зл.

**Адрыс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная вуліца № 1—2.
№ kartateki przekaz. razachnk. 59. [(ul. Zawalna 1—2).

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, 16 Сьнежня 1937 г. №17 (116).

## ГРАМАДЗЯНЕ!

Чатыры ўжо месяцы як выдаём „Шлях Моладзі“ два разы ў месяц. Пробны гэты час належна мы вытрымалі і выканалі свой плян. Зблiжаецца новы 1938 год. Хутка пачнём дзесяты юбілейны год нашае саматужніцкае выдавецкае працы. Як далей мае быць? Ці „Шлях Моладзі“ зможа далей выходзіць два разы ў месяц? — Пытаньне гэта для нас вельмі важнае. Мы з свайго боку, бязумоўна, будзем старацца, каб **не адступаць узад, а йсьці наперад і разьвівацца.** Але справа гэта не ад нас выключна залежыць. Залежыць яна ў вялікай меры ад таго, як будзе падтрымліваць нас грамадзянства, падпішчыкі. **Залежыць гэта ў вялікай меры ад акуратнасьці падпішчыкаў.**

**Грамадзяне!**

Не адзін можа з Вас ужо падумаў, што мы аб гэтым за шмат пішам і крычым. Справа гэта на першы пагляд выглядае, бадай што мала важнай. Аднак, калі прыгледзімся да яе бліжэй, то пабачым, што яна мае вялікае значэньне. Падпіска на свой часапіс, гэта ня ёсьць толькі справа 2 зл. і 50 гр. **Падпіска на беларускія часапісы ў сучасным палажэньні — гэта падтрыманьне для вялікага беларускага адраджэнскага руху, гэта доказ нашае грамадзкае сьпеласьці. Кожны беларус, які аплачвае акуратна падпіску, успамагае сваю беларускую прэсу, падтрымлівае і пашырае яе, той падтрымлівае сябе самога. Бо толькі свая прэса, свае беларускія часапісы належна бароняць беларускіх інтарэсаў і найлепш інфармуюць. Дзеля гэтага абавязкам кожнага беларуса ёсьць выпісваць свае беларускія часапісы і акуратна аплачваць за іх падпіску.**

**Беларуская моладзь у першую чаргу павінна выпісваць і пашыраць свой беларускі часапіс «Шлях Моладзі»!**

**Мы будзем-жа старацца, каб зьмест ягоны быў яшчэ больш багаты, размавіты і цікавы, будзем пры тым друкаваць большыя працы з галіны навукова-папулярнай і рабіць пасьля адбіткі (кніжкі). Дзеля гэтага ад 1938 г. «Шлях Мол.» будзе выходзіць у іншым фармаце.**

**Заклікаючы ўсіх аплачваць падіску за 1938 г., паведамляем, што і ў гэтым годзе між акуратных падпішчыкаў будуць разлёсаваныя цэнныя прэміі.**

**У сувязі з Новым Годам усім засылаем найлепшыя пажаданьні. Перадусім-жа жадаем каб справа беларуская апынулася ў лепшым палажэньні, каб доля Беларускага Народу была шчасьлівейшая, каб як найбліжэй падыйшлі мы да Вялікае Нашае Мэты!...**

*Выдавецтва „Шляху Моладзі“.*

# ПЕСЬНЯ НАША

Досыць плакаць ноччу чорнай.
Лійся песьня і зьвіні.
Апяваем шлях наш зорны —
маладыя славім дні.

Песьня наша, — ты ня знала
доўга радасьці людзкой,
пад крыжом вякі шагала
разам з зморанай душой.

Ты нямела сьветлых тонаў,
дум вясёлых яркіх сноў;
ты прыйшла да нас з прыгону,
з пад апекі цівуноў.

Палынова-горкім горам
бедных матак і дзяўчат,
калыхала ты прасторы
і тулялася ля хат.

Спалі вёскі...
спалі нівы.
Ноч — бяз берагу і дна,
і наперад палахліва
толькі ты брыла адна.

Апляваная пагардай,
як жабрачка у цішы,
ты зьбірала скарб багаты,
пэрлы нашае душы.

З дударамі,
з скрыпачамі,
з дзедам-лірнікам сьляпым,
йшла ты цёмнымі начамі
думак сеючы палын.

І здавалася ня будзе
ні сьвітаньня ні зары,
і здавалася ня збудзіш
душ засьмягшых у цямры.

Сёньня — дзіва!
быццам цудам,
песьня — макамі цьвіціш,
ня брыдзеш ля хат прыблудай –
птушкай вольнаю ляціш.

Зазьвінела звонка, звонка,
ад мяжы і да мяжы
панад роднаю старонкай
перамогаю дрыжыш.

Хлопцы, цёткі і дзяўчаты,
дзядзькі, сёстры і браты —
нашай песьні ўзмах крылаты
ня стрымаюць ўжо вятры.

*МІХАСЬ МАШАРА.*

# Вялікі Беларускі Канцэрт у Вільні

Як-бы там ня было, а добрая думка, добрая і справядлівая справа, заўсёды ў той ці іншы спосаб найдзе сабе выхад і ніхто яе ня зможа спыніць. Гэтак



Міхал Забэйда-Суміцкі

сапраўды можна было-б сказаць і аб беларускай песьні, каторая цяпер мае шмат ворагаў, якую крыўляюць, ня хочуць называць яе ўласным імем і г. д. Песьня беларуская аднак жыве, красуецца, здабываючы сабе штораз большы розгалас. Доказам гэтага, між іншым, быў вялікі беларускі канцэрт ладжаны Бел. Студэнцкім Саюзам у Вільні, у унівэрсытэцкай залі Сьнядэцкіх 12.XII. 1937 г. Ня гледзячы на тое, што агулам Заля Сьнядэцкіх у Вільні ня ёсьць папулярнай, што арганізатары канцэрту — беларускія студэнты, з увагі на канец першага сэмэстру і калядны перарыў, не маглі ўсіх сваіх сілаў сьціраваць да аргачізацыйнае працы, а таксама ня гледзячы на няспрыяючую пагоду — беларуская песьня прыцягнула ў унівэрсытэцкія муры такі натоўп народу, якога, як сьцьвярджалі бесстаронныя сьведкі — унівэрсытэцкія працаўнікі — ня сьцягвалі ніякія канцэрты, нават перадавых у Вільні польскіх хораў.

Заля сапраўды была поўная народу, асабліва-жа многа было моладзі. Выканаўцы канцэрту: Беларускі Хор грам. Р. Шырмы і слаўны наш тэнар-саліст Міхал Забэйда-Суміцкі паказалі, што ўмеюць і патрапяць валадаць людзьмі пры помачы мілай, прыгожай, дарагой нам роднай беларускай песьні.

Канцэрт распачаў хор народнай беларускай песьняй „Вецер вее“, а далей ішлі песьні: „То-то-то!“, „Там на ролі, на ральлі“ і іншыя гарманізацыі праф. Галкоўскага, які браў удзел у канцэрце, праф. Грэчанінава, Еўца, Уладзімерскага і інш. Гэтым разам Хор грам. Шырмы сягаў вяршынаў мастацкіх магчымасьцяў. Некаторыя песьні проста хапалі за душу і дрошчу праймалі ўсё цела. Буры воплескаў, гучныя „брава“ і „біс“ сьведчылі, што падобныя ўражаньні перажывала ўся заля.

Другой, галоўнай часткай канцэрту, было выступленьне Міхала Забэйды-Суміцкага. Што-ж можна аб ім сказаць... Аб такіх выступленьнях цяжка пісаць. Цяжка пісаць, бо немагчыма выказаць славамі, пяром, таго захапленьня, таго пад'ёму, які перажываецца слухаючы сьпеву М. Забэйды - Суміцкага. Трэба быць на канцэрце, трэба слухаць, трэба бачыць самога мастака, ягоную міміку, рухі, каб мець належную яго ацэну. Трэба бачыць радасныя вочы моладзі, тых слухачоў, якія слухаюць сьпеву без упярэджаньня, душой і сэрцам, трэба бачыць іхнія далоні, якія ад воплескаў фармальна пухлі.

Слухаючы некаторых песьняў, як напр. „Лета“, прад вачыма прасоўваліся каласяныя нівы, краскі, журчэлі мушкі, матылькі. У песьні „Зязюлька“ чуваць было мілае кукаваньне. Узноў-жа „Восень“ навявала сум, які разагнала песьня пра малога мужа і жонку.

Сваім сьпевам М. Забэйда-Суміцкі да таго завaладаў заляй, моладзьдзю, што сам стаўся яе вязьнем, і калі кончыўшы сваю праграму хацеў выйсьці з залі, дзьверы былі затамаваныя тымі, якіх душы захапіў беларускай песьняй. Засыпаны кветкамі, абдараваны нацыянальна - беларускімі падаркамі мусіў Забэйда адкупіць сабе выхад сьпевам надпраграмовым.

Пацешна сапраўды выглядала, калі Забэйда прасіўся: „Добра, запяю вам яшчэ „Лявоніху“, але толькі пусьціце“.

Гэтак спатыкала і прыймала беларускую песьню моладзь і ўся бадай заля. Аб фаховай ацэне сьпеву М. Забэйды-Суміцкага ня будзем тут пісаць, яе ўжо напісалі выдатныя знаўцы, прафэсары, кампазытары ў найлепшым сьвятле, ставячы нашага мастака песьні ў рады найвялікшых сьпевакоў усяго сьвету.

---

Кончыўся канцэрт. Грамады беларусаў узмоцненыя духам, ажыўленыя роднай песьняй, узварушаныя да глыбіні сэрца, разыходзіліся дамоў з новымі надзеямі, з новымі сіламі да працы на роднай ніве. На дварэ панавала сьнежная завея. Сільны вецер зьбіваў з ног, якія грэзьлі ў сьнягу і коўзаліся па абмерзлым бруку. Кожны аднак ішоў да сваей мэты, да цёплае хаты. Дзіўна неяк гэта складася. Разам з сьнегам веяла нейкая далёкая і глыбокая сымболіка...

---

Канцэрт кончыўся. Усе ўжо разыйшліся. Адбылося ўсё ў найлепшым парадку, нічога такжа не гразіла грамадзкаму супакою. Ды ці агулам можа песь-

ня, краса, мастацтва. Каму гразіць?.. Песьня лучыць, песьня гоіць раны, лагодзіць цярпеньні, —А можа аднак штось каму гра зіла?.. І так было, сапраўды гразіла!.. Гразіла Забэйдзе, Шырме. праф. Галкоўскаму і я нават баяўся, як іх студэнты пачалі падкідаць на ўра, угару, высака, аж пад столь... Радаваў аднак крык: „Няхай жывуць!“, „Няхай жывуць!“

Дык, няхай жывуць! На славу песьні беларускай, на славу Беларускага Народу!

**Я. Н.**

## Мае думкі

Думкі мае, што-ж бедаку дасьцё?
ад старой вёскі — кажыце-ж хутчэй
якое заўтра чакае жыцьцё,
з сям'ёй у хаце маей.

Думкі мае, штосьці разьбіліся
на дробны мак ў маей галаве...
безадказна ў даль пакаціліся —
па сьнежна-белай ніве-траве...

1937 г.

**Фабіян Вайцілёнак**

## Pamior Andrej Strug

9-ha śniežnia sioleta ŭ Varšavie pamior šyroka viedamy polski piśmieńnik Andrej Strug, praŭdzivaje proźvišča jakoha — Gałecki Tadeuš.

Vialiki hety piśmieńnik radziŭsia ŭ 1873 h. Ad małych školnych hadoŭ byŭ siabram nielehalnych polskich arhanizacyjaŭ, naležaŭ da Polskaj Sacyjalistyčnaj Partyi i zaŭziata pracavaŭ dla spravy vyzvaleńnia Polščy z pad čužackaj akupacyi. Byŭ jon blizkim ideovym tavaryšam adnaho z najbolšych polskich piśmieńnikaŭ — Žeromskaha. Najbolš viedamymi jahonymi knižkami jość: „Ludzie Podziemi,“ „Ojcowie nasi,“ „Pan i parobek.“ „Pieniądz,“ „Żółty krzyž“ i inš. Prad śmierciaj vydaŭ jon knižku p. n. „Miljardy,“ u jakoj pradstaŭlaje sučasny haspadarčy, hramadzki i ideovy zakałot u Eŭropie i Amerycy.

Andrej Strug byŭ najvialikšym sučasnym polskim piśmieńnikam i ščyrym demakratam.

## Да ведама грамадзянства ў справе нападу на нас кс. В. Гадлеўскага

У № 15 „Шляху Моладзі“ з 15.XI.37 былі мы змушаны на пастаянныя нападкі на нас „Беларускага Фронту“ і кс. В. Гадлеўскага даць выясьненьне. На гэта кс. В. Гадлеўскі ў № 13 „Бел. Фронту“ з 5.XII.37 г. зьмясьціў вялізарны артыкул, у якім далей яўна падтрымлівае няпраўду (ілжывыя весткі аб „Шл. Моладзі“ і інш.). Сьцьвярджаем, што такімі мэтадамі ў беларускай прэсе дасюль яшчэ ніхто не карыстаўся. Ад такога публіцыстычнага бандытызму, пазбаўленага прымітыўнага пачуцьця этыкі і грамадзкасьці, няма ані магчымасьці, ані патрэбы бараніцца. Зацікаўленых гэтай справай адсылаем да нашага выясьненьня, надрукаванага ў успомненым нумары 15 „Шляху Моладзі“.

*Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі“.*

# На плывучай лядзіне

*Што будзе з савецкай экспэдыцыяй на паўночны полюс?*

Калі мароз кусае за вушы, нос, ногі ды рукі, а сьнег завявае вочы, думкі мімаволі лятуць туды далёка, на поўнач, да людзей, каторыя здабылі паўночны полюс і ўжо больш як 200 дзён знаходзяцца ў ледавітай краіне. Нясуцца думкі да тых людзей, якія выракліся цяпла, выгодаў і, ня гледзячы на вялікія небясьпекі, працуюць для дабра навукі, ня ведаючы, што можа прынясьці ім кожная новая гадзіна і мінута.

Людзьмі гэтымі цікавіцца цяпер увесь сьвет, і няраз ужо ў газэтах паяўляліся трывожныя весткі. Тымчасам савецкая навуковая экспэдыцыя „Паўночны полюс“ далей няўтомна працуе. Рухомая лядзіна, на якую апусьцілася экспэдыцыя, адплыла ўжо далёка ад паўночнага полюса і далей плыве на поўдзень да вострава Грэнляндыя. Дасюль ад полюса праплыла яна ўжо больш 1,200 кілёмэтраў.



Слаўны савецкі беларускі вучоны праф. Отто Шмідт, які сарганізаваў навуковую экспэдыцыю на паўночны полюс (стаіць ён у вагоне пры вакне).

Учасьнікі гэтае экспэдыцыі: Папанін, Крэнкель, Ширшоў і Фёдараў цяпер перажываюць асабліва трывожныя хвіліны. Лядзіна, на якой яны знаходзяцца, трэцца з іншымі лядзінамі і ў кожную хвіліну можа трэснуць, сонца яны ўжо даўно ня бачаць, мароз даходзіць да 30 градусаў

і больш, а да таго пануюць там вялікія сьнежныя завеі. Нядаўна савецкія лятуны думалі ўжо, каб як-небудзь даляцець да сваіх вучоных і забраць іх адтуль. Вялікія аднак туманы і завеі на гэта не пазваляюць і пакульшто экспэдыцыя здана на ласку лёсу. Калі-ж далей лядзіна з экспэдыцыяй будзе плысьці так хутка, як цяпер, то толькі праз 5—6 месяцаў даплыве яна да таго месца, дзе магчымуць прыплыць вялікія караблі — лёдаколы ды забяруць вучоных.

свайго памешчаньня прывыклі, што здаецца яно нам даволі абшырным. Кожны з нас мае свой кут, у якім перахоўвае свае рэчы. Мае іх многа асабліва Папанін. Сьпіць на сшытках, дроцікАх, вяроўках, кніжках і ім п. Крыху вольнага месца на сьценах займаюць стрэльбы і лятарні. У адным куце вісіць наша аптэчка. Шыршоў стойка бароніць астаткаў газы, ужыванай да гаспадарскіх патрэбаў... На нязьмераных абшарах нашае памешчаньне займае толькі тры



Карабель-лёдакол закаваным лёдам на Ледавітым Акіяне.

Гэта больш-менш паказвае ў як сапраўды цяжкіх абставінах знаходзяцца гэныя людзі, каторыя адбіраюць прыродзе ейныя тайніцы.

Час-ад-часу экспэдыцыя рассылае радыё-тэлеграмы, інфармуючы сьвет аб сваім жыцьці і працы. У аднэй з тэлеграмаў Крэнкель расказвае гэтак:

Летам (г. зн. тады, калі ў іх сьвяціла сонца — *Я—к*) у нашым шатры было менш прадметаў. Калі надыйшла зіма (калі сонца схавалася—*Я—к*) трэба было лік іх павялічыць. Але так мы да квадратныя мэтры. Гэтулькі месца асталося нам па ўстанаўленьні ў шатры „ложкаў“, „сталоў“, прадуктаў і іншых рэчаў. Прывыклі мы ўжо да запаху газы, сырых скураў. Прывыклі мы таксама да шэрсьці з аленяў і з зупы выкідаем толькі большыя клубкі валасоў, не зварочваючы ўвагі на адзіночныя валасы. Пры ўваходзе ў шацёр (намёт) стаіць стол радыёстанцыі. Далей стаяць скрыні, рондлі з абедам, а зараз-жа хрономэтры і іншыя навуковыя прылады. Над ложкам Шыршова ёсьць найважнейшае

месца — гэта месца, дзе вісіць тэка (скураная торба), у якой схаваная ўся тайніца паўночнага полюса. У гэтай тэчцы знаходзяцца ўсе матарыялы здабытыя ў працягу 6 месяцаў цяжкае навуковае працы, на лядзіне. Лепш было-б, кажа Крэнкель—страціць галаву, чымся гэтую тэку.

У другой радыётэлеграме з станцыі „Паўночны Полюс“, апублікаванай у м-цы сьнежні ў савецкай прэсе, многа месца пасьвячана навуковай працы гэтай станцыі. І так за час прабываньня на лядзіне экспэдыцыя зрабіла больш 100 астранамічных наглядаў, якія дадуць магчымасьць дасьледзіць рух ледзяных крыгаў. У 26 месцах робленыя былі гідролёгічныя досьледы над скорасьцю цячэньня вады пад лёдам. Пры тым былі ўзяты пробкі вады і мерана глыбіня мора. Калі прыходзілася гэта рабіць, усе сябры экспэдыцыі, ня гледзячы на вялікія маразы, працавалі так, што потам заліваліся. Вядуцца досьледы атмосфэрычныя і мэтэоролёгічныя. Што дзьве гадзіны адзначаюцца ўсе зьмены пагоды. Кожны дзень у працягу 4 гадзін усе даныя па радыё перадаюцца на поўдзень. Калі каторы з сябраў экспэдыцыі адходзіць ад шатра (палаткі), дык дзеля таго, каб ня траціць пасьля часу на шуканьне яе, бярэ з сабой доўгую вяроўку, канец якой прывязаны да шатра і пасьля сьледам яе варочаецца.

Гэтак больш-менш выглядае жыцьцё і праца навуковае экспэдыцыі „Паўночны полюс“, людзей на далёкай поўначы, на лядзіне, для дабра навукі, веды і сьвятла. Я—к.

# Niachaj kožny robić što moža

Časam u nas kažuć, što rabili-b što-niebudź dla biełaruskaj spravy, ale niama mahčymaści i adpaviednych varunkaŭ. Hetak, jasna, moža havaryć tolki toj, chto naahuł lanivy ŭ hetym kirunku, abo źjaŭlajecca nacyjanalnym faryzejam. Bo štodziennaje žyćcio na kožnym kroku daje nam mahčymaść vyjaŭlać svajo nacyjanalnaje „ja“ i choć maleńkaje ziarniatka dadać da biełaruskaj spravy.

Voś choć-by ciapier. Niedaloka Novy Hod. šmat biełarusaŭ buduć kuplać kalendary biełaruskija, ale buduć i takija, katoryja, ci to pa staroj pryvyčcy ci pa svajej niaśviedamaści buduć kuplać u pradaŭcoŭ na rynkach kalendary rasiejskija i polskija. Tymčasam usie biełarusy, kataliki i pravasłaŭnyja, pavinny kuplać tolki kalendary biełaruskija, jakija prydatny jak adnym tak i druhim. Rola tut kožnaha śviedamaha biełarusa, a asabliva moładzi, uśviedamlać starejšych, kab kuplali tolki biełaruskija kalendary. Hetym samym budziem uspamahać biebiełaruskija vydaviectvy i biełaruskuju spravu. Moža chtoś skaža, što heta drabnica—ničoha nia značyć. Nie, bratki! Z małych rečaŭ tvoracca vialikija dy pamiatajma słovy paeta:

„chaj kožny, što moža,
ci mnoha ci mała,
pa kolki chto zdolny
ŭ narodnu skarbnicu ułoža.“

Niachaj zhinie tak-ža skaz, što „niejak tam i biaz nas abyjdziecca.“ Bo taki čałaviek, katory absalutna ničoha nia robić dla nacyjanalnaj spravy—źjaŭlajecca nia tolki nacyjanalnym nulom, ale i nacyjanalnym škodnikam, bo na jaho, jak na biazdziejnaha, lohka moža dziejać čužy ŭpłyŭ. R. B.

## Kuplajcie!




U kalendary hetym źmieščana mnoha cennaha matarыjału, karysnych radaŭ, pryhožych vieršaŭ, śmiešnych žartaŭ, pradkazańni pahody, źmieny miesiaca i in.

### Cana 50 hr.

(Z pierasyłkaj 75 hrašoŭ).

Chto kuplaje bolš, maje ŭstupku.

**Kuplać biełaruskija kalendary možna ŭsiudy i ŭva ŭsich kalendarn. pradaŭcoŭ.**

Hałoŭny skład u biełaruskich kniharniach u Vilni.

**U kožnaj biełaruskaj chacie pavinien być biełaruski adryŭny kalendar z biełaruskaj ścienkaj!**

* * *

Эх пайшоў-бы здэцца ў даль,
долі лепшае шукаці,
але роднай вёскі жаль;
поля, лесу, сенажаці.

Паляцеў-бы здэцца ў сьвет,
там, было-б і лепей, можа,
але ў хаце столькі бед,
што з іх вырвацца ня зможаш.

Ды шкада сваіх людзей,
што ўжо сталі прабуджацца,
і глядзець у даль ясьней,
долі лепшай дабівацца.

*Янка Чорны.*

## Купляйце!




### Цана 50 гр.

(З перасылкап 75 грашоў).

Хто купляе больш, мае ўступку.

Зьмест багаты і размавіты.

Два стылі: новы і стары.

# VAŬKI

Zima sioleta pryjšła niespadziavana chutka. Vialikija hurby śniehu zasypajuć darohi, nivy i lasy. Marazy zakuvajuć rečki i vaziory. Ludzi korčacca ad choładu i zašyvajucca ŭ ciopłyja chaty... A što-ž havaryć ab biednaj žyviole i źviarach u paloch i lasoch— im jašče horš. Biada im nia tolki z choładam, ale i z pažyvaj. Heta časta tak dajecca im u znaki, što bačym navat jak dzikija kozy, sarny, zajcy, lisy, dzikija śvini iduć u vioski, da ludzkich asieliščaŭ i tut, zhubiŭšy strach da ludziej, starajucca pažyŭlacca.

Inakš heta dzieić na vaŭka. Hety źvier — razbojnik, adčuvajučy hoład i choład, šaleje ad złości i nia tolki starajecca kraści ad ludziej svojskuju žyviołu, ale kidajecca na samoha čałavieka, zastupajučy jamu časta darohu. I tak, z nadychodam zimy ŭ štodziennych hazetach čytajem my što-raz bolš viestak ab tym, što tam i tam vaŭki napali na ludziej, pryjšli da vioski, zastupali darohu navat žaŭnieram i h. d. i h. d.

Ale vaŭki napadajuć nia tolki zimoju. Robiać jany heta taksama i letam, i vosieńniu, i navat viasnoj, asabliva heta dzieiłasia čamuści sioleta ŭ Łuninieckim paviecie na Paleśsi. Tam, jak śćviardžajuć aficyjalnyja danyja, tolki ŭ praciahu dvuch letnich miesiacaŭ: lipnia i žniŭnia — vaŭki schapili 430 aviečak, niekalki dziesiatkaŭ śviniej i 10-ciera ludzkich dziaciej... Pry tym, jak nia dziŭna, napady rabili vaŭki paadzinočna, abo pa dvuch i to siarod biełaha dnia, miž 9-taj i 16-taj hadzinami.

Cikavaje apisańnie henych napadaŭ znachodzim u № 33 časapisu „Łowiec Polski."

Voś-ža, — jak piša heny časapis — schoplenuju aviečku voŭk najčaściej niasie pierad saboj, trymajučy jaje za chrybiet i tak skora, što jaho niemahčyma dahnać. Kali vaŭki jduć na svajo „palavańnie" ŭdvuch, dyk u stadu aviec biažyć tolki adzin, chapaje aviečku i ŭciakaje ŭ kusty, dzie čakaje jahony tavaryš, katory paśla pamahaje jamu niaści zdabyču.

Dziaciej chapali vaŭki pieravažna małych, ad 3-ch da 12-ci hod, najčaściej siarod biełaha dnia i to časta z pad samaj chaty, z nadvorku, abo z vulicy. Z pasiarod dziesiacioch nieščaślivych dziaciej — piaciora było adrazu źjedziena, a reštu, mocna pakalečanych, udałosia miascovym žycharom adabrać, časta prosta z zuboŭ.

Adzin z hetych faktaŭ byŭ 10.VIII.1937 h. na chutary Hornym, vołaść Lenin. Voŭk schapiŭ tut z darohi 6-ci hadovaha chłapca, Paŭła Hlinskaha, katory hulaŭ niedaloka chaty. Chacieŭ jon chapić chłapca adrazu za horła, kali toj adnak adchiliŭsia, dyk voŭk chapiŭ jaho za baradu, łomiačy nižniuju śkivicu. Trymajučy hetak małoha chłapca pavałok jaho voŭk u blizkija kusty. Na kryk dziaciej, z jakimi hulaŭ mały Paŭlik, prybiehli ludzi i laśnik z revalveram, katory zdalok pačaŭ na strach stralać. Paśla 20 minutaŭ znajšli chłapca, užo niažyvoha, z rasporanym brucham i adarvanaj levaj nahoj, z jakoj voŭk uciok. Levy bok chłapca byŭ paciaty voŭčymi kłykami, byccam nažom.

Druhi vypadak zdaryŭsia ŭ Arłovie. Vyhladaŭ jon hetak: žančyna z tryma dziaćmi kapała bulbu, až raptam z kustoŭ vyskačyŭ voŭk i ŭ vačach matki schapiŭ małoje dzicia za bruch i panios u les. Matka pabiehła za im, čujučy žałasnyja kryki dziciaci: „mama, mama!" Nia ŭśpieła adnak zrabić paru krokaŭ, jak musiła zatrymacca i ratavać tych dvoje dziaciej, jakija astalisia i da jakich z druhoj starany padkradaŭsia druhi

voŭk. Schoplenaha dziciaci, jasna, nie znajšli.

Strašnaje pieražyćcio mieŭ takža adzin pastušok. Na jaho ŭ lesie napali až try vaŭki. Ratujučysia ad ich, uskočyŭ jon na dreva i kryčaŭ kolki mieŭ siłaŭ. Na vaŭkoŭ heta adnak nia dzieiła. Jany spakojna sabie pastali kala dreva i ciarpliva čakali na svaju achviaru. Na ščaście chłapca, niedaloka prachodziła hrupa rabotnikaŭ z z ruk i ŭciok z henaj zdabyčaj. Na niaščaście vaŭka (a na ščaście palašuka) torba była pustaja...

Horš končyŭsia flirt maładoha palašuka z svajej „najdaražejšaj", da jakoj jon pajechaŭ u hości, u susiedniuju viosku, kaniom. Kali chłapiec hety snavaŭ svajej miłaj pryhožyja plany ab budučyni, koń jahony, kiepska ŭviazany, dumaŭ, vidać, ab svaim kutku i, adviazaŭšysia, išoŭ praz les da svaj-



V a ŭ k i.

siakierami, jakija, pačuŭšy lamant chłapca, vyratavali jaho, adhaniajučy vaŭkoŭ ahulnym krykam i vymachivajučy siakierami.

Ščaście spryjała taksama adnamu 70-ci hadovamu palašuku, jaki varočaŭsia ŭviečary praz les damoŭ z torbaj na plačoch. Kali sielanin hety prachadziŭ kala kustoŭ, dyk raptam vyskačyŭ voŭk, kinuŭsia jamu na plečy i tak mocna turzianuŭ za torbu, što vyrvaŭ jaje ho chlava. Tut adnak spatkali jaho vaŭki i razarvali na drobnyja kuski.

Z pryčyny hetkich napadaŭ vaŭkoŭ na ludziej i na žyviołu, u Łuninieckim paviecie było naładžana až niekalki abłavaŭ, u časie jakich było zabita kala 20-cioch vaŭkoŭ i heta krychu ich uspakoiła.

*Z. B.*

# Što čuvać?

— Na pačataj sesii Sojmu ŭ Polščy najbolš hałosnaj była pramova pasła hien. Želihoŭskaha, katory zrabiŭ zakid premjeru ŭradu hien. Składkoŭskamu, što jon pastupiŭ niazhodna z kanstytucyjaj, vydajučy dekret, jakim Maršała Rydz-Śmihłaha naznačyŭ pieršaj asobaj paśla Prezydenta. Pavodle kanstytucyi — kazaŭ hien. Želihoŭski— paradak piaršynstva idzie hetak: prezydent haspadarstva, paśla ŭrad, dalej Sojm i vojska. Niazhodnaju z ducham novaje kanstytucyi ŭvažaje hien. Želihoŭski tak-ža dziejnaść OZoNu na hruncie Sojmu, dzie paŭstaŭ partyjny ozonaŭski klub. Vystupaŭ u Sojmie i hien. Składkoŭski i z pramovy jaho vyhladała, što ŭ chutkim časie jon maje padacca ŭ adstaŭku z svaim uradam.— PPS apošnim časam pačała enerhičnyja damahańni źmieny vybarnaha zakonu ŭ Sojm i Senat i vyznačeńnia novych vybaraŭ u hetyja pałaty. — 11.XII.37 u Vilni adbyvałasia vialikaja haspadarčaja narada, u jakoj pryjmali ŭdzieł: vice-premjer i ministry ŭradu. Ci pamoža jana što-niebudź ciažkamu ekanamičnamu pałažeńniu našaha kraju, pakaža budučynia. — 12.XII polskaja arhanizacyja moładzi „Wici", z pryčyny 25-ci hodździa isnavańnia svaje arhanizacyi, ładziła ŭ Varšavie źjezd, na jakim byccam vyjavilisia imknieńni hetaje arhanizacyi da supracoŭnictva z PPS. —

Na pačatku śniežnia adviedaŭ Polšč **francuski ministr** zahraničnych spraŭ **Delbo.** U Varšavie adbyŭ jon narady z Prezydentam Polščy, Marš. Rydz-Śmihłym, min. Bekam i inš. polskimi palitykami, a paśla adviedaŭ **Rumyniju, Čechasłavaččynu i Juhasłaviju,** dzie taksama vioŭ hutarki z palitykami na najvažniejšyja i najaktualniejšyja temy. Pajezdka min. Delbo była ciesna źviazanaja z anhlijska-francuskaj naradaj u Londynie, na jakoj pieradusim abhavarvałasia sprava niamieckich damahańniaŭ, padziei na Dalokim Uschodzie, u Hišpanii i imknieńni niamiecka-italjanska-japonskaha bloku. Charakterna, što min. Delbo nie pradoŭžyŭ svaje darohi da Maskvy i što kali praježdžaŭ praz Berlin, dyk na stancyju pryjšoŭ jaho spatkać niamiecki ministr zahraničnych spraŭ Neurath, što ŭ žyćci dyplamatyčnym uvažajuć za niazvyčajnaje zdareńnie. Vyjaŭlajecca miž inšym, što byccam Anhlija i Francyja majuć častkova prychilna adnieścisia da damahańniaŭ Niamieččyny ŭ spravie zvarotu joj kalonijaŭ u Afrycy i buduć staracca, kab nie dapuścić da niespakoju ŭ Siaredniaj Eŭropie. Niamieččyna, jak viedama, choča dałučyć da siabie Aŭstryju i nia nadta dobra adnosicca da Čechasłavaččyny.

— **Blok niamiecka-italijanska-japonski** starajecca zdabyć sabie jak najbolš prychilnikaŭ. Niamieččyna, jak viedama, naviazvaje ciaśniejšyja znosiny z Polščaj, Madziarščynaj i Baŭharyjaj, a Italija pryhałublivaje sabie Juhasłaviju, premjer katoraje Stojadinovič niadaŭna adviedaŭ Rym i vioŭ tam hutarki z Mussolinim. I treba dumać, što palityka henaha bloku vyklikała patrebu pajezdki francuskaha min. Delbo. Cikava tak-ža, što paśla vyjezdu z Varšavy min. Delbo, praz niekalki dzion u Italiju pajechaŭ polski hien. Vieniava Dłuhašeŭski, a ŭ Niamieččynu — kiraŭnik polskaha latunstva hien. Rajski. Słovam, u mižnarodnaj palitycy vialikaje ažyŭleńnie.

— **Italija** aficyjalna ŭžo vystupiła z Lihi Narodaŭ, u naradach

i pracy katoraj nia pryjmała ŭčaście blizu ŭžo hod. Biazumoŭna heta asłablaje Lihu Narodaŭ, katoraja faktyčna i tak nia nadta vialikaje maje značeńnie.

— **U SSSR** 12.XII siol. adbylisia vybary ŭ „Najvyšejšy Saviet," jakija kamunisty reklamavali demakratyčnymi, u što jasna nichto nia vieryć. A francuskaja sacyjalistyčnaja hazeta „Populaire" pisała, što vybary ŭ SSSR davali savieckim vybarščykam jašče mienš mahčymaści vyjavić svaju volu, čymsia totalistyčnyja režymy ŭ Niamieččynie i Italii.

— **Japoncy** adnak zaniali ŭ **Kitaju** Nankin i pasoŭvajucca dalej u hłyb kitajski. Słaŭny Čan-Kaj-Šek z svaim vojskam zmuša ny adstupać. Anhlija, Francyja, Złuč.Štaty Paŭn.Ameryki i Saviety, jakija byccam mieli pamahać Kitaju i davali nadziei, što adnak Japoncy nia zmohuć pieramahčy Kitajcaŭ, adzmahańniaŭ na Dalokim Uschodzie adsoŭvajucca, kab ścierahčy siabie. Niamieččyna prabuje Kitajcaŭ z Japonijaj pahadzić i nahavarvaje ich ustupić u praciŭkamunistyčny blok. Tymčasam Japoncy na zaniatych kitajskich ziemlach arhanizujuć užo svoj kitajski urad. Kala Nankinu japonskija latuny zatapili vajenny amerykanski karabiel, pry hetym zhinuła kala 100 amerykancaŭ. Fakt hety tryvožna praniośsia pa śviecie, ale zdajecca nia vykliča jon bolšych źmienaŭ u palitycy. *J. N.*



— Jak my ŭžo pisali, Japonija na zabranych ad kitajcaŭ ziemlach paŭnočnaha Kitaju sarhanízavała novaje aŭtanomnaje haspadarstva Manholiju. Novaje haspadarstva maje 5 milijonaŭ nasialeńnia, jakoje zajmajecca pieravažna hadoŭlaj karoŭ. Vyšej na [illegible]: [illegible] bačym manholskich žaŭnieraŭ, unizie—manholcaŭ pry hałoŭnym ich zaniaćci i sprava: pravadyra manholskich addziełaŭ kniazia Kang-Teh, katory staŭ pa staranie Japonii.

7 śniežnia 1937 h. ŭ v. Kopcievičy, Ašmianskaha pav., pamior

**śv. p. JAN DASIUKIEVIČ**

**baćka staršyni Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu ŭ Vilni, studenta Adama Dasiukieviča.**

Z hetaj pryčyny staršyni A. Dasiukieviču vyražajem svoj spahad

*Redakcyja „Ślachu Moładzi".*

## З КРАЮ

### Вучымся свае беларускае граматы

*Лаша,* каля Горадні. Цяжкае жыцьцё беларускае моладзі на вёсцы і невясёлае. Але моладзь ня падае духам, мае надзею на лепшую будучыню і прыгатаўляецца да працы, да жыцьця. Цяпер зімою, калі ўжо звольніліся ад палявое работы і калі ў доўгія вечары ня маем чаго рабіць, бяромся за беларускія кніжкі, а перадусім за беларускі лемантар „Першыя Зерняткі" і пры помачы яго вучымся роднае беларускае граматы. Да працы гэтае ахватней каля нас бярэцца моладзь праваслаўная; каталіцкая адстае, але ўжо таксама бярэцца за беларускія часапісы. Вялікая заслуга ў гэтым „Chryścijanskaj Dumki". З нашай стараны ўжо магло-б быць многа падпішчыкаў на беларускія газэты, але калі і тыя, што іх выпісваюць, ніяк ня могуць атрымаць, бо не даходзяць. Агулам нацыянальная сьведамасьць у народзе пашыраецца. Моладзь ахвотна ўзялася-б за культурную працу, каб толькі былі свае беларускія арганізацыі і каб было каму пакіраваць. *Карованас.*

### Pjanstva i razboj pašyrajucca

*Žodziški,* Vialejskaha pav. Harełka i ciemnata siarod moładzi robiać strašennaje spustašeńnie. Niama badaj taje viečaryny, ci viasiella, dzie-b abyšłosia biaz bojek, pjanstva i łajanak. Dzikaja i niakulturnaja heta prajava pryjmaje strašennyja raźmiery. I faktyčna z hetym nichto nie viadzie baraćby. Polskija arhanizacyi, jakija isnujuć tolki na papiery, nijakaha ŭpłyvu na moładź nia majuć, a našy biełaruskija arhanizacyi ŭ nas užo ŭłady pazakryvali. A svaje kulturnyja arhanizacyi sapraŭdy mieli ŭpłyŭ na moładź i adciahvali jaje ad pjanstva i razboju. Treba šukać niejkaha vychadu z hetaje strašnaje darohi, na jakuju ŭzychodzie naša moładź, bo ŭžo dachodzić da taho, što prosta biaz nijakaje pryčyny zabivaje brat brata i bieskarysna marnujucca maładyja siły. *F. D.*

### Moładź uśviedamlajecca

*Haduciški,* Śviancianski pav. Moładź naša pajšła da ŭśviedamleńnia — choča znać, chto jana i jakim šlacham treba jści ŭ žyćciovaj baraćbie. Dziela hetaha moładź achvotna biarecca za biełaruskuju knižku, a taksama i časapisy. U nas pieravažna kataliki i čytać umiejuć tolki łacinikaj, ale cikaviačysia biełaruskaj litaraturaj, šmat chto ciapier vučycca z lemantaroŭ hraždanki.

7 listapada sioleta, u v. Hajlušy, Haduciskaj voł. moładź ładziła biełaruskaje pradstaŭleńnie. Stavili kamedyju Rodzieviča „Žbiantežany Saŭka." Prysutnych było mnoha i pieravažna maładyja. Usie ščyra byli zachoplenyja, čujučy rodnuju movu na scenie i vyražali pažadańni, kab padobnych viečarynaŭ u rodnaj svajej movie biełaruskaj było bolš.

**Jazep Lachovič.**

# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

—Суд над выдаўцамі „Шляху Моладзі". „Шлях Моладзі" ёсьць часапісам культурна-асьветным, ідэовым, выдаўцы ягоныя не разьлічаюць на заработкі на ім і дзеля гэтага, а таксама з прычыны нястачы грошаў, у 1935 і ў 1936 г., так як шмат іншых выдаўцоў у Вільні, ня выкупілі прамыслова-гандлёвага патэнту. З гэтай прычыны скарбовыя ўлады выдаўцоў „Шл. Мол." аштрафавалі на 100 зл. 6 сьнежня сёлета справу гэну разглядаў Віленскі Акружны Суд і кару наложаную скарбовымі ўладамі зьменшыў на 20 зл.

— Водгукі ўрачыстасьцяў у чэсьць Ядвігіна Ш. З прычыны ладжаных Рэдакцыйнай Калегіяй „ШляхуМоладзі"урачыстасьцяў у чэсьць Ядвігіна Ш. і адкрыцьця яму памятніка, украінская штодзенная газэта „Діло" зьмясьціла вельмі прыхільны да Беласаў артыкул. Пісалі аб гэтых урачыстасьцях прыхільна і дзьве іншыя штодзенныя украінскія газэты: „Українські Вісти" і „Новый Час", а таксама прэса польская і жыдоўская.

— Памёр Адам Бычкоўскі. Нядаўна ў Варшаве памёр ведамы адвакат Адам Бычкоўскі, беларус, які ў 1909 г. быў адным з найбольш дзейных сяброў нелегальнага Гуртка Беларускае Вучнёўскае Моладзі ў Горадні. Апошнім часам А. Б. таксама быў у кантакце з бел. дзеячамі і бел. рухам. Вечная яму памяць!

— Справа „Бел. Крыніцы". 14 г. м. у Віленскім Акружным Судзе мела быць разглядана справа рэдактара А. Дасюкевіча і выдаўца А. Шутовіча абвінавачаных у сувязі з апошняй канфіскатай „Беларускай Крыніцы", пасьля каторай была яна спынена. З прычыны дамаганьняў абаронцы абвінавачаных, адв. Б. Аляхновіча, Суд расправу адлажыў дзеля далучэньня да актаў гэтай справы копіяў прысуду ў справах ранейшых канфіскатаў „Бел. Кр.", якімі рэдактар гэтага часапісу быў апраўдываны.

— Дапамаговы фонд. У Чэхаславаччыне ў Празе заснаваўся дапамаговы фонд для украінскіх і беларускіх студэнтаў.

— Каляднія фэрыі ў Віл. Беларускай Гімназіі будуць трываць ад 21.XII.37 да 10.I.38. У студэнтаў калядні перарыў пачаўся 15.XII і будзе трываць таксама да 10.I.38.

— Новыя сьценкі дакалендароў. Бел. Кнігарня „Пагоня" ў Вільні (Завальная 1) выдала сьценкі да адрыўных календароў з зьнімкамі беларускіх паэтаў. Таксама кнігарня Ст. Станкевіча (Вільня, Астрабрамская 2) выдала дзьве прыгожыя бел. сьценкі.

— Беларускія Раараты. Прыкладам мінулых гадоў і сёлета Віленскія беларусы-каталікі ладзілі ў сераду 8 г.м. урачыстыя раараты за памыснасьць працоўных беларусаў м. Вільні. Раараты адбыліся ў касьцеле сьв. Мікалая.

— У беларускіх студэнтаў. 8.XII сёл. у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы ў галоўным будынку Віленскага Унівэрсытэту мгр. Шкялёнак чытаў лекцыю аб беларускай гісторыі.

11.XII сёл. у Беларускім Студэнцкім Саюзе інж. Бусел прачытаў лекцыю аб Слуцкім Паўстаньні.

12 г. м. той-жа Бел. Студ. Саюз ладзіў канцэрт, шырэй аб якім пішам на іншым месцы.

## З жыцьця братніх народаў

У Літоўцаў. 26.XI.1937 у Коўне памёр літоўскі генэрал Жукаўскас — б. галоўны камандзер літоўскай арміі.

— У першых днях месяца сьнежня сёлета польскія адміністрацыйныя ўлады закрылі Літоўскае Дабрадзейнае Таварыства ў Вільні. Арганізацыя гэта апекавалася перадусім незаможнай літоўскай моладзьзю. Мела яна ў Вільні свае бурсы — інтэрнаты для вучнёўскае, студэнцкае, а таксама і рамесьніцкае моладзі і праводзіла сапраўды вялікую дабрадзейную дзейнасьць.

— Пасьля закрыцьця „Vilniaus Rytojus" літоўцы ў Вільні на выдаваньне новага часапісу, замест зьліквідаванага, дасюль дазволу не атрымалі

—о—

У Украінцаў. У м-цы лістападзе Украінцы ўрачыста адзначалі 25-тыя ўгодкі сьмерці свайго найвялікшага кампазытара М. Лысэнка.

— У сьнежні м-цы Украінцы ў Польскім Гаспадарстве ўрачыста сьвяткуюць 70 я ўгодкі існаваньня найстарэйшае свае культурна-асьветнае арганізацыі „Просвіта".

— 11.XII.1937 г. у Варшаве Украінская Студэнцкая Грамада ладзіла ў чэсьць свае паэткі Лэсі Украінкі канцэрт, у якім прыймала ўдзел ведамая беларуская сьпявачка Чарняўская-Орса Прапяяла яна некалькі украінскіх песьняў, і сваім звонкім мілагучным голасам здабыла сабе гучныя воплеск шматлікіх слухачоў

— Ahułam niejak pryniałosia ŭvažać kraj naš biednym, tymčasam nia jość užo zusim tak kiepska. Pierad usim, jak my nia raz tut adznačali, našyja ziemli naležna nie daśledžanyja i nichto dobra nia viedaje, što ŭ hetym krai jość. Apača-ž taho rodzić u nas lon, hadujem śviniej, karoŭ, koniaŭ, majem šmat lesu i h. d.— Apošnim časam Vilenščyna zdabyła sabie šyroki rozhałas z bahactva hryboŭ, žuravinaŭ i roznaha rodu lekarskich ziołak. I tak, kali ŭsiudy sioleta čuvać było ab nieŭradžai hryboŭ, to z Vilenščyny, tolki ŭ adnym miesiacy kastryčniku, vyviezіena bolš jak 15 tysiač kilohramaŭ sušanych hryboŭ u Aŭstryju, Belhiju, Čechaslavaččynu, Francyju, Niamieččynu, Švajcaryju, a navat i ŭ Złučanyja Štaty Paŭnočnaj Ameryki. U hetym samym časie vyviezіena taksama zahranicu 11 tysiač kilohramaŭ hryboŭ marynavanych i bolš 7 tys. klh. hryboŭ solenych. Apača taho ŭ Francyju i Niamieččynu vyvieziena 10 tysiač kilohramaŭ žuravinaŭ. Vyvaz lekarskich ziołak z kožnym hodam pavialičvajecca. Sioleta vyvieziena ad nas lekarskich ziołak kala 40 tysiač kilohramaŭ, pieravažna ŭ Anhliju, Daniju, Francyju, Niamieččynu, Madziarščynu, Złuč. Štaty Paŭnočnaj Ameryki i inšyja krainy.

— 21.XI.37 minuła 150 hod ad dnia naradžeńnia Dagierra i 100 hod ad dnia vynachadu im pieršaje fatahrafičnaje plitki.

— Prezydent Ruzvelt padaŭ u kanres prajekt, kab u praciahu 5 najbližejšych hod praviaśći budovu damoŭ na pamieškańni, jakich ciapier Ameryka adčuvaje niastaču, na ahulnuju sumu 16 milijonaŭ dalaraŭ (80 milijardaŭ złotaŭ). Na źnimcy nižej padajem vialikuju kamianicu zbudavanuju ŭ m. Čykaho (Zł. Št. P. Ameryki) na pamieškańni dla biezrabotnych.



— Ad studnia miesiaca da žniŭnia sioleta ŭ Polskim Haspadarstvie vypili 23,796,000 litraŭ śpirtu. U hetym-ža samym časie ŭ minułym hodzie vypita było tolki 21,001,000 litraŭ. Takim čynam na kožnaha hramadzianina ŭ hod vypadzie napeŭna bolš 1 litra śpirtu. Znača kožny čałaviek prapivaje bolš 10 zł. u hod. Tymčasam myła na kožnaha žychara Polskaha Hasp. vypadaje tolki 1,4 klh. u hod, ci jnačaj na čystatu svajho cieła vydaje čałaviek tolki kala 2 zł., a na zatruvańnie jaho kala 10 zł. Nad paraŭnańniem hetym varta kožnamu padumać.

— Pavodle apošniaha śpisu nasielnictva ŭ Złučanych Štatach Paŭnočnaj Ameryki jość 129,257,000 žycharoŭ. U 1930 h. było 122,775,046 asob.

— Nadoviačy ŭ Anhlii zdaryłasia vializarnaja katastrofa ciahnika, u časie jakoje zhinuła 35 asob i 100 raniena.

— 1937 hod chutka ŭciakaje i nie za harami ŭžo Novy 1938 Hod. Minuŭ užo dzień Andreja i Mikałaja, a chutka budzie Vasilova Kalada (dzień Sylvestra — 31-ha śniežnia). U hetyja dni ŭsiudy pa našych vioskach, asabliva dziaŭčaty, zajmajucca varožbami. Ale nia tolki na vioscy hetym zajmajucca. Zajmajucca hetym i ŭ miestach i nia tolki ludzi pryvatnyja i pryvatnym sposabam, ale roznyja astralohi, chiramanty, katoryja chočuć adyhrać rolu prarokaŭ. Jany prabujuć varažyć nia tolki ab tym, chto z kim aženicca. kolki buduć mieć dziaciej i h. d., ale i ab suśvietnych palityčnych i hramadzkich padziejach. — Voś niadaŭna ŭ adnej z madziarskich hazet (Madziary — Vuhry) pajaviłasia „praroctva" na 1938 h. niejkaj chiramantki B. Silbiger, katoraja zajmaje navat u sudzie stanoviśča grafologa (paznaje charaktar piśma). Varožyć jana sapraŭdy strašnyja padziei. I tak, pavodle jaje ŭ mai miesiacy ŭ 1938 h. miž eŭropejskimi haspadarstvami vybuchnie vajna, jakaja paśla abojmie ŭvieś śviet i budzie strašniejšaj, jak vajna 1914—1918 h. Vajna budzie tryvać da 1942 h. i zrobić u Eŭropie takija źmieny, jak u hranicach, tak i ŭ hramadzkich paradkach, što i sama varažbitka nia moža ich sabie pradstavić. Najhałaŭniejšuju rolu ŭ hetaj vajnie majuć adyhrać: Saviety i Madziarščyna. Niamieččyna byccam i ŭ hetaj vajnie prajhraje. Hazeta, jakaja padała hetyja „praroctvy" chiramantki Silbiger, piša, što jana pradkazała kaliś prychod da ŭłady Hitlera, zabojstva juhasłavianskaha karala Aleksandra, italijanska-abisynskuju vajnu, śmierć anhlijskaha karala Juraha V i inš. Pradkazańni jaje na 1938 h. vyhladajuć praŭdapadobna, adnak u ich, tak jak i ahułam u varožby, vieryć nia varta.

## PRAKTYČNYJA RADY

**Što rabić z popiełam?** Zimoju ŭ kožnaj chacie topicca piečka i jość popieł, jaki najčaściej marnujecca. Tymčasam popieł moža zastupać štučnyja hnai, jak patašovuju sol ci kainit, bo ŭ popiele jość ad 6 da 13 pracentaŭ patašu. Dziela hetaha popieł treba źbirać. Užyvać jaho možna pad buraki, morkvu, lon, kapustu i inš. Dajecca popiełu na 100 kv. metraŭ 9—12 klh., h. zn. try razy bolš jak patašavaj soli. Vysypać jaho treba pierad pasievam i pieramiešvać z ziamloj. Možna tak-ža heta rabić i paśla pasievu, kali raślina ŭzyjdzie, ale tolki tady, kali raślina suchaja (biez rasy abo doždžu). Popieł z kamiennaha vuhla da hetaha nie nadajecca.

**10 žyćciovych radaŭ.** 1. Havary tolki ab rečach, jakija dobra znaješ. 2. Nie adkładaj na zaŭtra, što možaš zrabić siańnia. 3. Nie marnuj času sabie i druhim. 4. Nia kuplaj ničoha, čaho nie patrabuješ — dziela taho tolki, što heta tannaje. 5. Hordaść kaštuje bolš čym hoład, spraha i choład. 6. Usie rečy biary z hładkaha kanca, a ludziej z dobraha boku. 7. Nichto nikoli nie škadavaŭ, što mała jeŭ, mała havaryŭ i rana ŭstaŭ. 9. Nie vydavaj hrošaj raniej, čym ich budzieš mieć. 10. Kali razhnievany — ličy ŭ dumcy da 10, pakul pačnieš havaryć. Kali-ž mocna razłoščany — dyk ličy da 100.



*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*
*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар Я. НАЙДЗЮК